**Увага! Самы позні тэрмін здачы рэкламных аб'яў у чарговы нумар — аўторак да 15 гадзін.**



# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 46 (75). Слонім. 12 — 18 лістапада 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны

# СЁННЯ ПЕЎНІК НА РЫНКУ КАШТУЕ 200 ТЫСЯЧ РУБЛЁЎ



Матэрыял «Вандроўка па рынку» чытайце на 3 стр.

**ФАКТ**

**С понедельника, 9 ноября, «черный» курс доллара в Минске вновь начал расти, достигнув отметок 165.000-170.000 рублей при покупке и 175.000-180.000 рублей при продаже.**

**ЦЫТАТА НУМАРА**

## Новы крок наперад



"Нягледзячы на абвал цэн на расійскім і сусветным фінансавых рынках, хвалі якога дакаціліся і да нашай рэспублікі, нам усё ж удалося зрабіць новы крок наперад. Дадзеныя развіцця эканомікі рэспублікі за 9 месяцаў гэтага года абнадзейваючыя...

Сёння мы абавязаны пабудаваць свабоднае грамадства, незалежную і квітнеючую дзяржаву, у якой усё падначалена інтарэсам чалавека працы, чалавека-творцы, чалавека-стваральніка".

***З выступлення старшыні Слонімскага райвыканкама С.Т.Здановіча на ўрачыстым мітынгу, прысвечаным дню кастрычніцкай рэвалюцыі.***

**("Слонімскі веснік" ад 10 лістапада 1998г.)**

# АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ Ў СЛОНІМЕ

**На мінулым тыдні слонімскія прыватныя гандляры праводзілі забастоўку. Два дні мясцовыя рынкі пуставалі. Гэтая акцыя была прымеркавана да агульнарэспубліканскага выступлення рабочых і прадпрымальнікаў, арганізаванага незалежнымі прафсаюзамі Беларусі. Мэта забастоўкі — выказаць пратэст супраць рэзкага пагаршэння жыцця працоўных.**

Слонімскія прадпрымальнікі, з аднаго боку, акцыю праводзілі арганізавана, — на рынках практычна не было штрэйкбрэхераў. Але, з другога боку, амаль усе прыватныя гандляры "баставалі" дома, што адрозніяла гэтую забастоўку ад ранейшых. А некаторыя прадпрымальнікі нават не ведалі прычыны правядзення акцыі...



*Так выглядаў рынак 4—5 лістапада 1998г.*

Па словах старшыні слонімскага Савета прадпрымальнікаў і асоб, працуючых па найму Тамары Ёрш, удзельнікі забастоўкі патрабавалі павышэння мінімальнай заработнай платы да 100 даляраў, надання заработнай плаце статуса першачарговага плацяжу, а таксама доступа Свабодных прафсаюзаў да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

— Урад ашукаў і нас, прадпрымальнікаў, — гаворыць Т.Ёрш. — Ні аднаго патрабавання з 20 выкладзеных на другой усебеларускай нарадзе кіраўнікоў прадпрымальніцкіх структур, па спыненню чыноўніцкага бязмежжа над людзьмі і краінай, не выканана... Мы спадзяваліся, што сістэма ўліку для малога бізнесу нарэшце будзе спрошчана да мінімума, што стаўкі падаткаў будуць непарушнымі, а ў заканадаўства парламентарыі ўнясуць асноўныя змены, прапанаваныя намі. Аднак у нас стварэцца ўражанне, што асобныя чыноўнікі, якія стаяць ля ўлады, прымаюць рашэнні адносна прадпрымальнікаў, не ўнікаючы ў іх сутнасць. А гэта прыводзіць да поўнай абсурднасці заканадаўчых і нарматыўных актаў, якія яны прымаюць.

20 траўня 1998г. выйшаў чарговы ўказ аб сертыфікацыі. Цяпер прадпрымальнікі будуць падвяргацца штрафам да 500 "мінімалак" і санкцыям, якія ў два разы перавышаюць валавую выручку. А ўказ ад 5 чэрвеня 1998 года, у выпадку перавышэння тавараабароту ў 100 МЗП у месяц, абавязвае прадпрымальнікаў адкрываць разліковыя рахункі ў банку для правядзення плацяжоў.

— Але ж прадпрымальнік закупляе тавар, у асноўным, на дробнааптовых рынках за межамі рэспублікі, дзе разлік адбываецца толькі за наяўныя грошы, і сістэма кантрактаў пры гэтым нават не фігуруе, — адзначае Тамара Ёрш.

Па словах старшыні Савета прадпрымальнікаў, «наяўнасць шматлікіх законаў, указаў і дэкрэтаў накіравана на тое, каб адабраць увесь прыбытак і ўсю маёмасць у грамадзяніна, незалежна ад таго, колькі ён заплаціць падаткаў. Па гэтай прычыне дабрабыт прадпрымальніка сёння залежыць выключна ад капрызу чыноўніка, а не ад закона. Вялікія пошліны і паборы, афіцыйныя і неафіцыйныя, адбіваюць у людзей ахвоту адкрываць сваю справу. Ліцэнзіраванне, сертыфікацыя, рэгістрацыя, адкрыццё рахунка ў банку, выкананне ўсіх існуючых інструкцый патрабуе вялікіх грашовых сродкаў, здароўя і часу. На жаль, улады не разумеюць, што прадпрымальнікі сёння — гэта перадавы пласт грамадства, які сфарміраваўся матэрыяльна, структурна арганізаваўся і гатовы змагацца за свае правы. І з гэтым трэба лічыцца».

**Сяргей ЁРШ**

**Мікалай СУПРУН (фота)**

# МІЛЬЯРДНЫЯ ШТРАФЫ

**Прафесія бухгалтара толькі на першы погляд здаецца ціхай і спакойнай. Жыццёвая ж практыка паказвае, што праца з лічбамі — справа небяспечная.**

Аб гэтым сведчаць вынікі праверак Слонімскага ад-дзела фінансавых расследаванняў. Напрыклад, былы галоўны бухгалтар друкарні Яўгенія Зімніцкая адноўчы "адмыслова занізіла прыбытак прадпрыемства і абкладаемы абарот адлічэння падатку на дабаўлены кошт". Дакладней, частку выручкі ад рэалізацыі прадукцыі яна не ўнесла ў бухгалтарскі ўлік, а таксама завысіла сабекошт прададзенай прадукцыі. У выніку, у бюджэт было недаперапічана падаткаў на суму звыш 1,5 мільярда рублёў. Такім чынам, звычайны бухгалтар нанесла дзяржаве страту ў асабліва буйным памеры, што падпадае пад артыкул крымінальнага кодэкса. Таму па гэтых фактах і была ўзбуджана крымінальная справа, якая потым трапіла на разгляд суда. У сваю чаргу слонімская феміда прызнала Яўгенію Зімніцкую вінаватай і прыгаварыла да трох гадоў пазбаўлення волі ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам адзін год.

Аднак больш за ўсё ад няправільнай камбінацыі лічбамі пацярпела друкарня. Бо прадпрыемства вымушана было пералічыць у казну ўжо не 1,5 мільярда рублёў, а амаль 8,8 мільярда з улікам штрафных санкцый.

Падобная гісторыя парушэння падаткавага заканадаўства адбылася і на вінзаводзе. Супрацоўнікі аддзела фінансавых расследаванняў устанавілі, што гэта прадпрыемства са студзеня 1996 года па снежань 1997 года неабаснавана зрабіла адлічэнне затрат на сабекошт прадукцыі, няправільна скарыстала ільготы па падаткаабкладанню і іншае. Увогуле, атрымаўся цэлы букет парушэнняў на суму амаль 11,8 мільярда рублёў. Менавіта столькі грошай вінзавод абавязаны заплаціць у бюджэт з улікам штрафных санкцый і падаткаў. Па гэтых фактах па незразумелых прычынах не была ўзбуджана крымінальная справа, хаця неабходныя дакументы былі накіраваны ў пэўныя праваахоўныя органы. Тым не менш, работнікі аддзела фінансавых расследаванняў лічаць, што дзеянні некаторых адказных асобаў прадпрыемства патрабуюць ацэнкі з пункту гледжання літары Закона.

**Анатоль МІРСКІ**



**НАДВОР'Е**

12 НОЯБРЯ по области облачно с прояснениями, преимущественно без осадков, ветер неустойчивый 3-8 м/с, температура воздуха ночью -5, -10, местами до -15, днем -2, -7 С°.

# "КРИЗИС БУДЕТ УСУГУБЛЯТЬСЯ"

**«Опасность Лукашенко — только в пассивности белорусского народа и безразличии соседей», — считает известный российский правозащитник, ученый, писатель, ныне проживающий в Великобритании, Владимир Буковский.**

В интервью, опубликованном в независимой газете «Народная воля», В.Буковский скептически оценивает перспективы воссоздания Советского Союза и белорусско-российской интеграции. «Никогда не вернется Советский Союз... Эти вещи назад не работают... Наоборот, Россия еще распадется на куски... Заниматься интеграцией — значит строить вавилонскую башню», — убежден ученый. На его взгляд, Россия входит в период своей «фрагментации», а в таких условиях «все претензии белорусского президента на российский трон выглядят нелепо». К тому же, считает он, российский кризис, который будет стремительно углубляться, очень сильно отразится на белорусской экономике; причем, «ваши дела будут хуже, чем в России». Рассчитывать на дешевое российское топливо Беларуси уже не приходится, отмечает В.Буковский, значит, кризис будет усугубляться, что «сделает правление Лукашенко невозможным». Как подчеркивает правозащитник, нам важно «подготовить силы, способные заместить его. В переходный период нельзя допускать вакуума. А произойдет это очень скоро».

**Наталья ФУРСАВА**

# ЗНОЎ ПРА ТЫФ

**Як ужо пісала "ГС", некалькі навучэнцаў духоўнай семінарыі ў Жыровічах захварэлі на брушны тыф.**

Падзея гэтая адразу трапіла пад увагу рэспубліканскіх і замежных СМІ. У гэтым няма нічога дзіўнага, бо штогод у Беларусі на брушны тыф хварэе не больш 6-8 чалавек (апошняя ўспышка хваробы была ў Чэрвені пад Мінскам у 1997 г.).

Чацвёра семінарыстаў з дыягназам «брушны тыф» былі шпіталізаваны ў слонімскую інфекцыйную бальніцу, а ў самой семінарыі праводзіўся комплекс супрацьэпідэміялагічных мерапрыемстваў. У Жыровічы прыязджалі спецыялісты з Міністэрства аховы здароўя і Рэспубліканскага цэнтра эпідэміялогіі і гігіены.

Відавочна, што семінарысты і выкладчыкі ўжо стаміліся ад такой вялікай увагі да сваёй навучальнай установы. На думку рэктара семінарыі айца Леаніда, семінарыстаў кладуць у інфекцыйную бальніцу не заўсёды абаснавана.

— Забаліць горла ці павысіцца тэмпература — іх адразу шпіталізуюць. А яны ж там пакутуюць! — гаворыць айцец Леанід.

Па стану на 9 лістапада ў бальніцы, акрамя чатырох хворых хлопцаў, знаходзіліся на абследаванні яшчэ 16 семінарыстаў. Але іх паступова пачалі выпісваць. Медыкі лічаць, што сітуацыя нармалізуецца, і хворыя ідуць на папраўку.

**Сяргей ЁРШ**

ВСТАТЬ! СУД ИДЕТ

# БЕЗ ПРАВА НА ПРОЩЕНИЕ

**В каждом из нас живет улыбка матери — та первая радостная улыбка, то первое прикосновение тепла ее рук. Но матери не только смеются. Самая горькая и самая тяжелая слеза — материнская.**

32-летнему Валерию Елесину уже не увидеть ни улыбки, ни слез родной матери, которая его вскормила, вырастила, поставила на ноги. После школы он успешно окончил Гродненское музыкальное училище. В совершенстве освоил игру на кларнете и трубе, аккордеоне и пианино. Работал аккомпаниатором в Деревновском доме культуры. Имел семью, 8-летнюю дочь.

И вот теперь все осталось в прошлом. Нет уже и матери. В преждевременной ее смерти виновен сам Валерий.

— Не помню уже, — давая показания суду, говорил Елесин, — посылал ли в тот день мать за вином или нет. Очень болела голова...

И далее, путаясь, рассказывал, как на лестничной площадке дома он встретил мать, которая возвращалась с магазина. Там же они и поссорились.

— На площадке третьего этажа, — продолжал подсудимый, — когда мать меня обозвала разными словами, я в гневе толкнул ее в плечо. Она не удержалась и спиной упала на лестничный марш, головой ударилась о бетон. После чего ее тело сползло по лестнице на второй этаж.

Далее он подбежал к матери. Поднял ее тело и прислонил к стене. В это время на площадке появились соседки. Одна из них вызвала "скорую". А сын вышел из подъезда, сел во дворе, где его и нашли работники милиции. Женщина фактически скончалась на месте.

В документе судмедэксперта было подчеркнуто, что, кроме раны на голове, на теле умершей обнаружены телесные повреждения в результате избиения пострадавшей.

Однако факты избиения матери сын категорически отрицал. Да и соседи по квартире, выступавшие в качестве свидетелей, поясняли, что не видели и не слышали ссор между сыном и матерью, а тем более случаи драк или избиений. Наоборот, пятеро свидетелей положительно характеризовали Валерия.

Сам подсудимый не отрицал, что одно время сильно увлекался спиртным. Видимо, из-за этого ушла от него жена. В материалах дела по ходу суда отслеживались штрихи характера и нравственное падение молодого мужчины, талантливого музыканта. А виной всему — водка.

Коллеги советовали Валерию набраться силы воли, мужества и покончить с выпивкой. Он давал слово. Держался. Но вновь срывался.

За несколько месяцев до того трагического дня Елесин закодировался.

— Музыкант он превосходный, — говорил коллега Артур Штерберг. — После кодирования он стал другим человеком. Но потом опять сорвался. И снова пошло-поехало.

Пил после работы и дома. Дело доходило до того, что пропивал пенсию матери. Товарищи по работе старались помочь Елесину и даже собрали 1,3 млн. рублей на повторное кодирование от алкоголизма. Но и эти деньги он пропил. В последнем слове подсудимый признал свою вину, но только не в преднамеренном и умышленном убийстве.

Суд приговорил В.Елесина к 7 годам лишения свободы.

**Иван ЧУГУЕВ**

# ПРАЦАВАЦЬ — ПРАЦУЕМ, АЛЕ ШТО МАЕМ?

**Па дадзеных раённага аддзела статыстыкі ў студзені-верасні 1998 года народная гаспадарка Слонімшчыны атрымала амаль 420 млрд.руб. прыбытку, што на 80% больш, чым летась за адпаведны перыяд. Тым не менш па стану на 1 студзеня гэтага года было 7 стратных прадпрыемстваў. Самым стратным лічыцца драмтэатр (сума стратаў 1221 млн.руб.).**



❍ Сёлета калгасы і саўгасы раёна намалацілі 60766 тон збожжа, што на 13990 тон менш мінулагодняга. Накапана 12969 тон бульбы, а гэта таксама на 507 тон менш, чым летась. А вось вытворчасць малака ў параўнанні з папярэднім перыядам за дзевяць месяцаў узрасла на 10%. У насельніцтва закуплена 6121 тона малака, што складае 22% ад агульнага аб'ёму закупак.

❍ Па стану на 1 кастрычніка ў калгасах і саўгасах раёна знаходзіліся на рамонце 136 трактароў (15% ад іх агульнай колькасці) і 100 грузавых аўтамабіляў (18% ад агульнай колькасці).

❍ У 1998 годзе ў Слоніме пабудавана 185 кватэр. Запазычанасць заказчыкаў за выкананы ў гэтым годзе будаўнічыя работы склала 4,6 млрд.руб.

❍ Сярэднямесячная заработная плата ў 1998 годзе склала 3218,8 тысяч рублёў (у жніўні 3848,4 тысяч). У прыватнасці, па галінах народнай гаспадаркі (тыс.руб.):

прамысловасць — 4959,0.
сельская гаспадарка — 3280,0.
транспарт — 4543,0.
будаўніцтва — 4279,0.
гандль і грамадскае харчаванне — 3779,5.
ЖКГ і бытавое абслугоўванне — 3361,4.
ахова здароўя — 3156,0.
адукацыя — 2349,2.
культура — 1842,4.
апарат органаў кіравання — 4677,2.

❍ Па стану на 30 верасня 1998 года агульная сума запазычанасці па выплаце заработнай платы склала 5689 млн.руб. і цалкам прыпадае на калгасы і саўгасы раёна.

❍ У 1998 годзе ў раёне нарадзіўся 431 чалавек і памерла 736. Колькасць нованароджаных у параўнанні з адпаведным перыядам 1997 года павялічылася на 25 чалавек (6,2%), а памерлых — на 60 чалавек (8,9%). У студзені-верасні 1998 года і ў горадзе, і ў сельскай мясцовасці смяротнасць перавысіла нараджальнасць (адпаведна на 37 і 268 чалавек).

❍ За 8 месяцаў 1998 года ў раёне зарэгістравана 339 шлюбаў, што на 12 шлюбаў больш, чым у 1997 годзе. Разводаў за гэты перыяд зарэгістравана 188 (на 6 больш, чым летась). На 100 шлюбаў у студзені-верасні 1998 года прыйшлося 55 разводаў (56 у 1997 годзе).

**Валянцін ЧУРЫЛА**

НАВІНЫ

## Живут в Слониме таланты

**На Международном интеллектуальном фестивале в Москве рационализаторы Слонимского ПТУ-189 Андрей Станкевич, Александр Бондаренко, Олег Крицкий и Сергей Михайлевич были награждены медалью "Юный участник Всероссийского выставочного центра".**

Этой награды они были удостоены за активное участие в изготовлении универсального компрессора. Все эти ребята — члены кружка технического творчества, которым руководит Вячеслав Иосифович Голубовский.

ПТУ-189 было отмечено на фестивале дипломом I-й степени.

**Иван ЧУГУЕВ**

## Будет ли горячим декабрь?

**В случае невыполнения требований, принятых участниками акции рабочей солидарности 5 ноября в Минске, решено 7 декабря провести общереспубликанскую предупредительную забастовку.**

В числе этих требований — повышение минимальной зарплаты до 100 долларов, придание ей статуса первоочередного платежа, свободный доступ профсоюзов к СМИ. В случае невыполнения этих условий, трудовые коллективы 7 декабря с 8.00 до 11.00 намерены провести общереспубликанскую предупредительную забастовку.

**БелаПАН**

## Ствараецца помнік Сапегу

**Як вядома, па ініцыятыве групы гараджан, у адпаведнасці з рашэннем гарвыканкама ў Слоніме будзе ўстаноўлены помнік слонімскаму старосце Льву Сапегу (1557 — 1633). Цяпер ідзе работа над яго праектам.**

Па словах вядомага скульптара, нашага земляка Івана Міско, акрамя яго, у творчую групу ўваходзяць архітэктары: Уладзімір Казырновіч (Слонім) і Алена Пятросава (Мінск). Плануецца, што работа над праектам будзе закончана ў гэтым месяцы. А калі яго зацвердзіць Міністэрства культуры, то адразу распачнецца падрыхтоўка рабочай мадэлі помніка. Іван Міско лічыць, што калі не будзе праблем з фінансаваннем, помнік Льву Сапегу можа быць устаноўлены ўжо ў наступным годзе. Ён будзе зроблены з граніту і бронзы.

**Сяргей ЁРШ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5. Тэл. 2-14-39. (017)210-87-17 E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 11 лістапада 1998г. Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 7.200 экз.
Заказ №3092
«Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая
Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

ГОРАД

# ВАНДРОЎКА ПА РЫНКУ

На днях карэспандэнты «ГС» зрабілі вандроўку па слонімскім рынку. Надвор'е было халаднаватае і марусіў дробны дождж. На рынку і вакол яго, як заўсёды, стаяла шмат аўтамашын. Гадоў шэсцьдзесят-сто назад на тым месцы стаялі павозкі з конямі, а цяпер – легкавушкі. Праўда, рынак у Слоніме тады знаходзіўся не вакол сінагогі, а на цяперашняй плошчы Леніна. Сквэрыка не было, а толькі вялікая рынначная плошча. Да 1946 года рынак у Слоніме называлі яшчэ Звозным рынкам. Тут і адбываўся гандаль. Асабліва шматлюдна было ў чацвер і нядзелю, калі з вёсак прыязджалі сяляне прадаваць свой тавар.


Слонімскі рынак, 1943 год

Штогод 7 чэрвеня на слонімскім рынку праходзіў Троіцкі кірмаш. З навакольных вёсак і мястэчак збіралася каля пяці тысяч чалавек, якія гандлявалі збожжам, жывёлай і іншымі сельскагаспадарчымі прадуктамі. Пра папулярнасць і рост кірмашовага гандлю сведчаць і такія лічбы: у 1854 годзе на Троіцкі кірмаш было прывезена тавараў на агульную суму 6550 рублёў, а ў 1857 годзе – на 8500 рублёў. Гэта былі вялікія грошы. Бо мяшок мукі ў той час каштаваў менш рубля.

Сёння рынак у Слоніме іншы. Адзенне, абутак, электратавары, кава, гарбата, алей, цукеркі, у асноўным, прывазныя і каштуюць вельмі дорага. Не кожнаму ўсё гэта па кішэні. Але нас цікавілі не гэтыя тавары, а тыя, якія слонімцы прадаюць са сваіх агародаў. А таксама тое, што зроблена ўласнымі рукамі.

У той дзень гандляры прадавалі яблыкі, памідоры, бульбу, моркву, ячмень, пшаніцу, саджанцы парэчак, яблынь і г.д. Чарга была па капусту, якая каштавала 8 тысяч рублёў за кілаграм. Бралі мяшкамі. Куплялі і бульбу. Вядро каштавала ад 60 да 70 тысяч. А вядро ячменю – 50 тысяч рублёў.

Сталага ўзросту мужчына з Рышчыч прадаваў кошыкі. Пацікавіліся, як ідзе гандаль.

– Вельмі дрэнна, – адказаў ён. – Учора прадаў адзін вялікі кош за 80 тысяч рублёў адной жанчыне са Слоніма. А звычайныя кошыкі прадаю па 50 тысяч.


Троіцкі кірмаш у Слоніме, 1930 год

Некалькі жвавых пенсіянерак трымалі ў руках жывую хатнюю птушку. Падышлі да адной, на руках якой сядзеў малады певень з вялікім чырвоным грэбенем.


Цяпер на кошыкі не сезон

– Колькі каштуе пеўнік?

– Дзвесце тысяч, але за 180 аддам, – адказала кабета.

Курыц-нясушак на рынку можна было купіць за 250 тысяч. Але жанчыны цану скідалі, абы толькі тавар прадаць.

Каля першых радоў рынку малады мужчына са сваёй маці прадаваў малакаадстойнікі, сіты, лейкі і таркі. Ім аказаўся слонімец Ігар Прошкін. Ён разам з бацькам вырабляе гэтыя рэчы і прадае. Спецыяльную бляху купляюць на заводах, яна каштуе 80 тысяч за адзін ліст. А вось выраблены ўласнымі рукамі малакаадстойнік Ігар Прошкін прадае за 280 тысяч рублёў. Цяпер гандаль ідзе слаба. Лепш за ўсё яго тавар бяруць вясною. Гандлююць імі Прошкіны і ў Баранавічах, а таксама прыязджаюць купцы з Ваўкавыска: некаторыя оптам адзін раз у месяц купляюць па 5-7 малакаадстойнікаў. Так і жывуць.

Шмат жанчын-пенсіянерак гандлявалі хрызантэмамі і іншымі познімі асеннімі кветкамі. Вясковыя жанчыны прадавалі масла, малако, тварог. "Хоць нейкі рубель будзе, як прыбаўка да пенсіі", – казалі яны. – Бо надта ўжо ў крамах усё дорага каштуе, – дадала жанчына з Парэчча.

Пакідаючы рынак, мы адчулі, што ён бяднее. Бяднее разнастайнасцю тавараў, менш становіцца гандляроў і пакупнікоў. Ці вытрымае рынак рост цэн і збядненне нашага народа – пакажа час. Вельмі хочацца, каб ён захаваўся хоць на такім узроўні, як зараз.


Прошкіны прадаюць свой тавар


Вядро за вядром — і мяшка няма

**Сяргей ЧЫГРЫН**
**Фота Мікалая СУПРУНА і з архіва рэдакцыі**

ІНФАРМБЮРО

## Почём нынче в Польше хлеб?

***Мне понравилась статья "Три недели в Варшаве" ("ГС" №44). Хотелось бы, если это возможно, чтобы корреспондент подробнее рассказал, как живут люди в Польше, какие цены в магазинах и на рынках, о заработной плате учителей, врачей и людей иных профессий, чтобы можно было сравнить уровень жизни в Польше и у нас.***

***Меня также интересует жизнь сельских жителей этой страны.***

***Т.М.ПАРФЕНЧИК***

Для того, чтобы судить об уровне жизни в Польше и у нас, на мой взгляд, прежде всего надо сказать о средней заработной плате. В Польше она составляет 1500 злотых (1 доллар США – 3,5 злотых). Что касается заработной платы поляков, то она самая разная в зависимости от профессии и квалификации.

К примеру, рабочая по имени Эльжбета, которая граблями равняла привозимый на газоны грунт, призналась, что ее зарплата составляет всего 1200 злотых, что по польским меркам мало. Водитель трамвая Болеслав сообщил мне, что в месяц его заработок составляет от 2000 до 2500 злотых.

Находясь в гостях у одной из варшавских семей, услышал, что главный бухгалтер сахарного завода в сентябре получила 7 тысяч злотых, а врач-фармацевт и учитель – от 1,3 до 2,5 тысяч злотых. Весьма высокая зарплата у юристов, которая может достигать 9-11 тысяч злотых.

В тоже время цена на хлеб, в зависимости от сорта, составляет от 2 до 5 злотых (вес буханки 650 гр.). Килограмм сосисок стоит 6-8 злотых, килограмм вареной колбасы – от 12 до 20 злотых, а копченой от 18 до 70 злотых. За килограмм свежего карпа придется заплатить 14-16 злотых. Но цены в магазинах колеблются в зависимости от их местонахождения. Чем дальше магазин от центра Варшавы, тем цены ниже. Скажем, в самом центре польской столицы 1 кг картофеля стоит 2 злотых, а помидоров – 3 злотых. Стоит проехать остановки четыре в сторону окраины, как такой же картофель вы сможете купить за 0,7 злотых, а помидоры за 1,5 злотых.

Тоже с ценами на одежду и обувь. К примеру, приличные кожаные туфли в крупном центральном универмаге стоят 120-140 злотых. На вещевом рынке такие же туфли вы сможете приобрести за 70-80 злотых. Мой коллега, журналист из Минска Юрий Вельтнер, был очень огорчен, когда на рынке увидел куртку за 180 злотых, а точно такую же он купил в центре Варшавы за 280 злотых. Кстати, стоимость самой маленькой малолитражки "Фиат" составляет 7-7,5 тысяч злотых, "Фольксваген-Гольф", "Фольксваген-Поло" – 9-9,5 тысяч злотых. При желании, автомобиль можно приобрести в кредит, уплачивая ежемесячно от 350 до 450 злотых.

Весьма интересной оказалась моя встреча с одним из польских фермеров Тадеушем Овчареком, усадьба которого находится в 35 км от польской столицы. Этот хозяин-земледелец имеет 40 га земли, животноводческую ферму на 100 голов коров и 50 свиней. Его месячный доход составляет 1300 злотых.

Месячная квартплата за 2-комнатную квартиру составляет 165 злотых, а средний размер пенсии – 705 злотых. Пособие по безработице в октябре месяце составляло 378 злотых.

**Валентин ЧУРИЛО**

## Дзе змалоць пшаніцу?

***Сёлета на сваім дачным участку сабраў два мяхі пшаніцы. Думаем з жонкай пачаставаць сваіх унукаў піражкамі, але не ведаем, дзе можна спытляваць пшаніцу на муку?***

***Аляксандр Захаравіч ЛЯХ, жыхар Слоніма***

З гэтым пытаннем карэспандэнт "ГС" звярнуўся да галоўнага агранома райсельгаспрраўлення Карла Свіба. Вось што ён паведаміў:

– Млыны для памолу зерня на корм жывёле ёсць у кожным калгасе і саўгасе раёна. А вось, каб спытляваць пшаніцу на муку, прыйдзецца ехаць на млын калгаса "Чырвоная зорка", што знаходзіцца ў вёсцы Высацк.

## Без «Культуры» нам ніяк

***У мяне па тэлевізары дрэнна паказваюць праграмы канала "Культура". У чым тут прычына, што трэба зрабіць, каб палепшыць якасць выявы перадач?***

***Пётр ГАРАБЕЦ***

Як паведамілі «ГС» спецыялісты тэлевізійнага рэтлянслятара, Слонім знаходзіцца амаль побач з рэтранслятарам і таму паміж тэлевізарам і тэлевышкай шмат перашкод у выглядзе будынкаў, дрэў. Лепш за ўсё глядзець "Культуру" тыя, чые тэлепрыёмнікі знаходзяцца на прамой бачнасці ад тэлевышкі. Палепшыць якасць выявы перадач новага канала можна, калі ўстанавіць усехвалявую антэну, пажадана вонкавую.

## Калі прымае начальнік

***Як мне трапіць на прыём да абласнога міліцэйскага начальства?***

***Лідзія ЮХНОЎСКАЯ***

Начальнік УВД г.Гродна Белашэўскі Анатоль Аляксеевіч прымае грамадзян па асабістых пытаннях другі і чацвёрты панядзелак кожнага месяца з 14 да 17 гадзін па адрасе: г.Гродна, вул.Акадэмічная, 3.

## Жаўнераў Войска Польскага чакаюць даляры

***Нядаўна даведаўся ад свайго знаёмага, што былыя ўдзельнікі вайны, якія змагаліся з фашыстамі ў Войску Польскім, могуць атрымаць грашовую дапамогу ад польскага ўрада. Калі гэта сапраўды так, то раскажыце, калі ласка, да каго я павінен звярнуцца, якія трэба аформіць дакументы, каб атрымаць дапамогу?***

***Васіль КАСПЯРОВІЧ, 71 год***

Шаноўны Васіль Каспяровіч, сапраўды, у адпаведнасці з польскім заканадаўствам, асобы, якія жывуць па-за межамі Польшчы, могуць атрымаць пасведчанне ўдзельніка вайны, калі да верасня 1939 года мелі польскае грамадзянства (незалежна ад нацыянальнасці і веравызнання) і прымалі ўдзел у абаронччай вайне 1939 года ў складзе Войска Польскага, польскіх вайсковых фарміраваннях на Захадзе (або служылі ў гэтых войсках да 8 траўня 1945 года) у радах 1 і 2 Арміях Войска Польскага да 8 траўня 1945 года, а таксама былі ўдзельнікамі барацьбы ў польскіх партызанскіх атрадах, Арміі Краёвай і іншых фарміраваннях, якія змагаліся за незалежнасць Польшчы.

Гэтыя асобы пасля праверкі іх дадзеных будуць мець права на атрыманне сацыяльнай дапамогі ад Сейма Польшчы ў памеры 66 даляраў ЗША ў квартал (3 месяцы).

Да заявы на атрыманне пасведчання ўдзельніка вайны неабходна прыкласці:

1. Дакладна запоўнены анкетны лісток (яго высылае консульства), які павінен быць асабіста падпісаны.

2. Асабістую аўтабіяграфію з падрабязным апісаннем службы і ўдзелу ў баявых дзеяннях у польскіх вайсковых фарміраваннях, высылкі, канспіратыўнай дзейнасці, знаходжання ў турмах за ўдзел у барацьбе за незалежнасць Польшчы.

3. Два падпісаныя фотаздымкі памерам 3х4см.

4. Дакументы, што падцвярджаюць дзейнасць асобы і будуць з'яўляцца асновай для атрымання пасведчання ўдзельніка вайны.

5. Копія асабістага пашпарта жыхара Рэспублікі Беларусь.

Асобы, якія жадаюць атрымаць асабістую кансультацыю па гэтых пытаннях, могуць звярнуцца як у Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Гродне, так і ў Пасольства Рэспублікі Польшча па адрасе: г.Мінск, вул.Румянцава, 6.

З заявамі на атрыманне пасведчання жыхары Гродзенскай вобласці могуць звярнуцца да 31 снежня 1999 года ў польскае консульства па адрасе: 230023, Гродна, вул.Будзённага, 48а, Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча.

У выпадку смерці ветэрана, члены яго сям'і права на атрыманне сацыяльнай дапамогі не маюць.

**Леанарда РЭЎКОЎСКАЯ**

## НАШ ФОТАКОНКУРС

# "У АБ'ЕКТЫВЕ — ДЗЕЦІ"




Як самастойны

*Фота даслаў Васіль РАП'ЯВЕЦ*






Яшчэ адна лыжка...

*Фота даслала Джаміля ШАГІДЗЕВІЧ*




Добра сядзім

*Фота даслала Тамара ЛУК'ЯНАВА*




Першы пацалунак

*Фота даслала Наталля БАШКО*



## СОВЕТЫ БЫВАЛОГО

❑ Чтобы складной зонтик открывался и закрывался без осечки, время от времени ставьте его в развернутом состоянии под теплый душ. Под действием тепла ткань равномерно растянется по спицам и после сушки сохранит свою форму.

❑ Если у зонтика от конца спицы оторвалась ткань, вовсе не обязательно обращаться в мастерскую. Нужно взять тонкую леску, трижды обмотать конец ткани и завязать узел. Затем продеть леску через отверстие в конце спицы и закрепить ткань.

❑ Мягкую мебель можно отлично вычистить с помощью выбивалки для ковров, не поднимая при этом в комнате пыли. Достаточно накрыть обивку мокрой простыней. Пыль осядет на простыне, которую останется лишь сполоснуть.

❑ При мытье люстры, как ни старайся, хрустальные подвески так и норовят упасть на пол. Чтобы они остались целыми, подставьте заранее тазик с водой.

❑ Отвалившуюся от значка или броши булавку можно легко прикрепить обратно. Сначала булавку припаивают к жестяной или латунной пластинке размером несколько меньше значка. Тыльную сторону значка выравнивают напильником, а затем приклеивают к ней пластинку с булавкой.

❑ Вышедшую из строя корковую пробку для термоса можно заменить пенопластовой, обернутой полиэтиленовой пленкой. Такая пробка не разбухает и хорошо держит тепло.

❑ Чтобы телефонный аппарат не соскальзывал с полочки, надо приклеить к ее поверхности две крышечки от лимонада. Аппарат ставится в них ножками и таким образом фиксируется. Со стороны крышечки совершенно не видны.

❑ Мыльница с присосками прочнее держится на стене, если поверхность стены в месте крепления мыльницы предварительно смазать мыльным раствором.

❑ Чтобы на обоях не образовывались пузыри и морщины, надо аккуратнее их разглаживать. Такие дефекты могут появиться, если температура в помещении низкая, а влажность — высокая, и обои сохнут слишком долго. Кроме того, надо, чтобы полотно хорошо размякло в клею.

❑ Не мучайтесь напрасно, пытаясь уничтожить побелкой подтеки на потолке: они вновь выступят. Чтобы избежать этой неприятности, сначала закрасьте их масляной или нитрокраской, а уж потом приступайте к побелке.

## У Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістравалі шлюб:



Сяргей Рыбак і Аксана Рыла

Сяргей Сілівонік і Іна Макарчык

Генадзь Духоўнік і Наталля Пашкіна

Дзмітрый Пятрашка і Ганна Корпік

**ШЧАСЦЯ ВАМ!**

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Сяргей Тур
Юля Стрык
Аляксей Жук
Аксана Якута
Дзмітрый Ігнацік



**КАГО НАМ БУСЕЛ ПРЫНЁС?**

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

✝

| | |
|---|---|
| **Дабрынін** Сяргей Мікалаевіч | 1982 г.н. |
| **Вянцко** Томаш Дзянісавіч | 1933 г.н. |
| **Талерчык** Галіна Аляксандраўна | 1958 г.н. |
| **Ніціеўская** Пелагея Паўлаўна | 1900 г.н. |
| **Серанькі** Уладзімір Мікалаевіч | 1947 г.н. |
| **Крупіца** Міхаіл Фаміч | 1942 г.н. |
| **Адаська** Валянціна Серафімаўна | 1951 г.н. |
| **Дуброўская** Анастасія Міхайлаўна | 1912 г.н. |
| **Радзішэўскі** Мікалай Васільевіч | 1925 г.н. |
| **Смірнова** Надзея Пятроўна | 1907 г.н. |
| **Белацаркоўская** Аляксандра Іванаўна | 1911 г.н. |
| **Ясюкевіч** Іван Іванавіч | 1932 г.н. |

## АНЕКДОТЫ

➡ Счастливый отец рассказывает другу:

-У меня жена родила! Причем рожала по-модному — в воде. Ребенок просто замечательный: четыре кило и на редкость неприхотливый — его только корми да воду в аквариуме меняй почаще.

➡ Воентур предлагает: Уникальные туры по Европе на Т-72! Варшава, Берлин, Прага. Вы платите только за солярку. Выезд — по мере комплектования батальонов.

➡ Объявление на столбе: «Лечу от всех болезней». Мимо проходит мужик и говорит себе под нос: «Лети, лети, от всех не улетишь».

➡ Буфетчик говорит официанту: -Послушай, перестань выталкивать пьяных клиентов на улицу. Ты, наверно, забыл, что работаешь в вагоне-ресторане.

➡ Встречаются двое. -А вы слыхали, какое пугало Иванов поставил у себя на огороде? -Нет, а какое? -До того страшное, что вороны вернули урожай за прошлый год!

➡ Негр после учебы в России возвращается к себе на родину. Обступившие прибывшего соплеменники допытываются: -Ну, как тебе знаменитая русская зима? -Та, которая с травой и листьями, еще терпимо. А та, что со снегом — просто кошмар какой-то...

## КРОССВОРД

*от Владимира ВАШУТЫ*

**ПО ГОРИЗОНТАЛИ:**

**1**. Натуральный налог, который платили царским властям народы Сибири и Поволжья. **3**. Рыба семейства лососевых. **8**. Английская золотая монета. **9**. Мячик для игры в бадминтон. **10**. Молоко, после удаления из него жиров сепаратором. **12**. Повар на судне. **14**. Остров в Тирренском море. **18**. Единица массы. **20**. Спектакль или представление в честь одного из его участников. **23**. Точка лунной орбиты, ближайшая к центру Земли. **24**. Старинное метательное оружие. **28**. Персонаж повести М.Горького "Детство". **29**. Роман А.Барбюса. **31**. Большая проезжая дорога. **34**. Пьеса А.Н.Островского. **36**. Мера веса драгоценных камней. **37**. Работа на корабле всей командой. **38**. Комедия Н.В.Гоголя. **39**. Приток Печоры. **40**. Вид атмосферного осадков.

**ПО ВЕРТИКАЛИ:**

**2**. Хвойное дерево. **4**. Мужской голос. **5**. Старинная немецкая монета. **6**. Поэма лауреата Ленинской премии Э.Межелайтиса. **7**. Город-порт во Франции. **11**. Спортивная гоночная лодка. **13**. Сосуд для цветов, фруктов. **15**. Город-порт в Италии. **16**. Воинское звание. **17**. Продукт перегонки нефти. **19**. Короткий рассказ. **21**. Согласие, отсутствие вражды, ссоры. **22**. Поле, оставленное на одно лето незасеянным. **25**. Ценный пушной зверь. **26**. Государство в Западной Африке. **27**. Войсковое подразделение. **30**. Город в Эстонии. **32**. Корабль, на котором О.Коцебу совершил кругосветное плавание в 1815-1818г.г. **33**. Птица. **35**. Шелковая узорчатая ткань.



**ОТВЕТЫ НА КРОССВОРД (№45)**

**1**. Альманах. **2**. Карамель. **3**. Санскрит. **4**. Комбинат. **5**. Хоккеист. **6**. Элассома. **7**. Березина. **8**. Нестеров. **9**. Абориген. **10**. Ожерелье. **11**. Некрасов. **12**. Пелерина. **13**. Гольдони. **14**. Реквизит. **15**. Реликвия. **16**. Паганини. **17**. Теплоход. **18**. Заповедь. **19**. Каватина. **20**. "Богатыри". **21**. Подаяние. **22**. Лабрадор. **23**. Богатырь. **24**. Радиатор. **25**. Сардиния. **26**. Золотник. **27**. Крендель. **28**. Институт. **29**. Катафалк. **30**. Медальон. **31**. Натурщик. **32**. Арбитраж.

